

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№6 (чэрвень), 2014

# Мяжа




**Для Камілы шукаюць аднакласнікаў**

(старонка 13)

## ЗЬМЕСТ

## Бяроза: хто выклікаў праваабаронцаў у міліцыю?

Пры знаёмстве з матэрыяламі судовай справы па адозве дазволу райвыканкамам на пікет на 25 сакавіка праваабаронца Сяржук Русецкі не знайшоў там запыту суддзі Алены Нямковай ў міліцыю на прадмет апытання яго і Тамары Шчапёткінай па гэтай справе. Не знайшоў і тлумачэнняў, якія яны давалі ў міліцыі ў суботу 26 красавіка ў 12 гадзін дня, куды яны былі выкліканы напярэдадні павесткамі. Пры гэтым Шчапёткінай даставілі павестку нават пасля 22 гадзін вечара 25 красавіка.

Паўстае пытанне: а ці быў выклік ад суддзі, ці гэта ёю прыкрываліся супрацоўнікі міліцыі, каб праваабаронцамне патрапілі ў Мінск на Чарнобыльскі шлях? Сяргей Русецкі і Тамара Шчапёткіна напісалі старшыні суда Бярозаўскага раёна, каб з гэтым разбіраўся зараз ён.

http://spring96.org/be/news/71384

## Бярозаўскі суд: Пратэст супраць акупацыі Украіны - распальванне варожасці

Бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты не пагадзіліся з рашэннем суда Бярозаўскага раёну, які адмовіў ім у задавальненні скаргі.

Актывісты падавалі скаргу на тое, што яшчэ 25-га сакавіка ім не дазволілі правесці пікет супраць уводу расейскіх войскаў на тэрыторыю Украіны.

Паводле суду, гэта распальванне нацыянальнай варожасці, - кажа адзін з заяўнікаў Сяржук Русецкі:

- Суддзя палічыла тое, што прадстаўнік райвыканкама сказаў, што выказванне пратэсту супраць увядзення Расейскай Федэрацыяй сваіх войскаў на тэрыторыю незалежнай Украіны - гэта паслужыць распальванню нацыянальнай варожасці паміж грамадзянамі. Таму яны забаранілі пікет. Безумоўна, што ў суддзі стаяла задача аформіць рашэнне згодна з пастаўленай мэтай, але па магчымасці так, каб гэта выглядала законна.

Паводле праваабаронцаў, суд вынес палітычна-матываванае рашэнне, паколькі ўзяў пад увагу толькі адзін бок, у тым ліку адмовіў у

правядзенні лінгвістычнай экспертызы. Цяпер судовая пастанова абскарджваецца ў Берасцейскім абласным судзе.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=24754#.U4tcTnIvCK5

## Валянцін Стэфановіч: у 1996 годзе, калі праводзіўся рэферэндум, у Беларусі не было пажыццёвага зняволення




Чаму Беларусь захоўвае такую меру пакарання як смяротная кара? Намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра "Вясна" упэўнены, што прычыну варта шукаць у савецкім мінулым. У СССР смяротнае пакаранне было мерай пакарання, якую выкарыстоўвалі па шырокаму спектру злачынстваў.

- Беларусь з'яўляецца дастаткова кансерватыўнай краінай. Я маю на ўвазе савецкі кансерватызм, не рэлігійны кансерватызм або любы іншы, а менавіта савецкі кансерватызм. Калі ўзгадаць гісторыю Савецкага Саюза, смяротнае пакаранне там адыгрывае значную ролю. У паслярэвалюцыйныя перыяд і у 30-ыя гады ў Савецкім Саюзе вельмі актыўна выкарыстоўвалася смяротнае пакаранне, прычым, па вельмі шырокаму колу злачынстваў. Расстрэльвалі не толькі за забойствы і гвалтоўныя дзеянні ў адносінах да чалавека, але і ўжывалі да людзей, якія з'яўляліся «ворагамі дзяржавы», а таксама па эканамічных злачынствах. Напрыклад, у Савецкім Саюзе на працягу доўгага часу быў артыкул, якая прадугледжвала смяротнае пакаранне за крадзёж дзяржаўнай маёмасці ў асабліва буйных памерах. Артыкул быў адменены дзесьці ў канцы 1980-х. У сувязі з гэтым, можна растлумачыць, чаму Беларусь захоўвае гэтую меру пакарання.

Год таму, Валянцін Стэфановіч выступіў на Пятым сусветным

кангрэсе супраць смяротнага пакарання, які праходзіў у Мадрыдзе 12-16 чэрвеня 2013 года. Беларускі праваабаронца распавёў пра тое, як у Беларусі фармуецца грамадская думка пра смяротнае пакаранне. «Адносна грамадскай думкі ў Беларусі я б вылучыў два аспекты», - кажа Валянцін Стэфановіч.

- У 2011 годзе, калі быў здзейснены тэракт у мінскім метро, падчас якога загінулі 15 чалавек. Гэта было ўпершыню ў Мінску, і ўсё грамадства было шакаванае, бо ў нас ніколі такія злачынствы не ажыццяўляліся. Здавалася бы, грамадская думка ў яшчэ большай ступені павінна павярнуцца ў падтрымку смяротнага пакарання, але адбылося наадварот - многія людзі канкрэтна у гэтым выпадку сталі выступаць супраць смяротнага пакарання, бо не давяралі праведзенаму следству і прысуду, які быў вынесены ў дачыненні да двух маладых людзей, якіх абвінавацілі ў здзяйсненні тэракту. Цяпер мы можам назіраць сітуацыю, калі людзі выказваюцца за смяротнае пакаранне, за выключэннем «справы тэрарыстаў», якая было "несправядлівай". У 2011 годзе пасля вынясення прысуду Кавалёву і Канавалаву грамадскі рэзананс быў настолькі вялікі, што ўпершыню прадстаўнікі двух найбуйнейшых рэлігійных канфесій - праваслаўнай і каталіцкай - публічна заявілі пра сваю пазіцыю адносна смяротнага пакарання. Калі ўлады спасылаюцца на рашэнні рэферэндуму 1996 года, яны забываюць, што гэтае пытанне пра смяротнае пакаранне мела неабавязковы характар, мела так званы “дарадчы статус”. Гэта, па-першае, а па-другое, у 1996 годзе, калі праводзіўся рэферэндум, у Беларусі не было пажыццёвага зняволення, а было толькі смяротнае пакаранне і 15 гадоў пазбаўлення волі. Гэта таксама вельмі важны фактар. Грамадская думка не статычная, яна змяняецца. Але ў грамадстве няма дыялогу па смяротным пакаранні – гэтую праблему не абмяркоўваюць. Грамадскія арганізацыі могуць працаваць у гэтым кірунку, але іх магчымасці вельмі абмежаваны, яны не могуць выйсці на дзяржаўнае тэлебачанне. Мы можам толькі распаўсюджваць інфармацыю ў інтэрнэце і арганізоўваць вулічныя мерапрыемствы, якія не заўсёды могуць абысціся без наступстваў.

http://spring96.org/be/news/71611

## У Берасці сябры АГП падалі заяўкі на пікеты да Дня незалежнасці

Пяць заяваў на правядзенне пікетаванняў падалі берасцейскія сябры Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Яны хочуць прымеркаваць мерапрыемствы да Дня незалежнасці Беларусі – 27 ліпеня. Актывісты звязваюць актуальнасць пікетаў з апошнімі ўкраінскімі падзеямі і лічуць важным неабходнасць захавання беларускага суверэнітэту.

Адзін з заяўнікаў мерапрыемства Уладзімір Вуек адзначыў, што сярод галоўных задач пікетаў – нагадаць грамазянам пра важнасць захавання цэласнасці краіны і нацыі.

Уладзімір Вуек:

- Яшчэ раз звярнуць увагу грамадскасці на важнасць захавання суверэнітэту нашай краіны. Мы бачым, што адбываецца вакол нас і чым пагражае ўмяшанне трэціх краін, якія спрабуюць дыктаваць свае ўмовы. І нам сёння важна разумець, што Беларусь – гэта самастойная краіна, у якой павінен быць непарушны суверэнітэт.

Пікеты плануецца правесці ў такіх месцах як пляцоўкі каля Цэнтральнага ўнівермагу, кінатэатра "Беларусь" і крамы "Усход".

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=25244#.U6RyR_4vCK5

## Брэст: мясцовым дэпутатам зноў нагадваюць пра неабходнасць справаздач перад выбаршчыкамі

Актывісты грамадзянскай ініцыятывы "Сацыяльны офіс", якія працягваюць у Брэсце кампанію "Народны кантроль", накіравалі ліст на імя новаабранага старшыні гарадскога Савета дэпутатаў Мікалая Красоўскага.

Як паведаміў прадстаўнік "Сацыяльнага офісу" Юрый Жыдовіч, у звароце пералічаны прапановы, якія, на думку актывістаў, дазволяць палепшыць інфармаванасць насельніцтва пра дзейнасць народных абраннікаў. У прыватнасці, ініцыятытары ліста прапануюць, каб прыём грамадзян дэпутатамі гарсавета ажыццяўляўся не па месцы іх працы, а ў адмыслова адведзеным памяшканні.

Акрамя таго, актывісты лічаць неабходным істотна палепшыць дэпутацкі раздзел на інтэрнэт-старонцы Брэсцкага гарвыканкама. "Мы прапануем, каб на сайце была размешчана інфармацыя пра тое, дзе і

калі дэпутаты будуць сустракацца са сваімі выбаршчыкамі, а таксама якім чынам народныя абраннікі будуць рабіць справаздачу пра сваю дзейнасць перад грамадзянамі”, - распавёў Юрый Жыдовіч.

У якасці прыкладу ў лісце да кіраўніцтва Брэсцкага гарсавета дэпутатаў прыведзена інтэрнэт-старонка іх калег з Гродна, адкуль можна даведацца не толькі пра імя і прозвішча дэпутата, але і атрымаць звесткі пра месца і перыдычнасць прыёму выбаршчыкаў.

http://spring96.org/be/news/71630

## Актывісты кампаніі “Гавары Праўду!” – за бяспеку руху

Актывісты кампаніі “Гавары Праўду!” ў Берасці патрабуюць ад гарадскіх уладаў стварыць умовы для бяспечнага руху на адным з участкаў гораду. Жыхары мікрараёну Рэчыца занепакоены інтэнсіўным рухам пешаходаў і грамадскага транспарту на перакрыжаванні вуліц Сонечнай, Рэчыцкай і Адамкоўскай, - пра гэта распавёў актывіст кампаніі Ігар Маслоўскі.

- Жыхары мікрараёну Рэчыца заклапочаныя станам бяспекі руху на скрыжаванні трох вуліц – Сонечная, Рэчыцкая і Адамкоўская. Тут няма светлафораў, знакаў дарожнага руха. Жыхары звярнуліся да актывістаў “Гавары праўду”, каб дапамаглі скласці скаргу.

Грамадскія актывісты падрыхтавалі зварот ў ДАІ Берасцейскай вобласці і адміністрацыю Ленінскага раёна горада Берасця.

Пад зварота паставілі свой подпіс больш за паўсотні жыхароў гораду.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=25175#.U6HYYf4vCK5

## Праваабаронцы змагаюцца за беларускую мову

Беларускі Хельсінскі Камітэт і юрыст-праваабаронца Гары Паганяйла звярнуліся ў Канстытуцыйны Суд Рэспублікі са зваротам па справе дыскрымінацыі адной з дзяржаўных моваў - беларускай. Па словах Гары Паганяйлы, магчымасць абароны беларускай мовы даюць папраўкі у закон аб Канстытуцыйным Судзе.

- Я прапаную нашым грамадскім аб’яднанням дэмакратычнага накірунку, а таксама ўсім, хто зацікаўленыя ў гэтай працы і ў развіцці беларускай мовы, арганізаваць шырокую кампанію для таго, каб

Канстытуцыйны суд звярнуў увагу на становішча з мовай і распачаў справу.

Скарыстоўваючы новую заканадаўчую магчымасць праваабаронцы просяць Канстытуцыйны суд Беларусі разабрацца з нявызначанасцю рэальнага статусу беларускай мовы, і заклікаюць да гэтага іншыя грамадзкія арганізацыі і грамадзянаў.

Адной з першых ініцыятыву падтрымала Рабочая група Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=25151#.U6CLPv4vCK5

## Брэст: мясцовыя ўлады ігнаруюць заканадаўства аб абароне правоў дзяцей-інвалідаў

Да такіх высноваў прыйшлі органы пракуратуры Брэсцкай вобласці, якія ладзілі праверку наконт выканання заканадаўства аб абароне правоў і законных інтарэсаў дзяцей-інвалідаў і дзяцей з асаблівасцямі псіха-фізічнага развіцця.

Падчас праверкі выяўлена, што мясцовыя выканаўчыя органы не заўсёды прымаюць дастатковыя меры для абароны правоў такіх дзяцей, асабліва калі гэта тычыцца захадаў па стварэнні безбар'ернага асяроддзя для інвалідаў. У выніку толькі пасля патрабаванняў пракуратуры былі зробленыя пандусы ў дзіцячых аддзяленнях паліклінік Драгічынскай, Столінскай, Івацэвіцкай цэнтральных раённых бальніц.

Акрамя таго, былі выяўлены недахопы ў пытаннях сацыяльнага абслугоўвання, а таксама незаконнага спагнання грошай за харчаванне дзяцей-інвалідаў падчас лячэння. Такія факты мелі месца ў Камянецкім, Бярозаўскім, Івацэвіцкім, Пружанскім, Ляхавіцкім раёнах, дзе зараз дзеці-інваліды забяспечаны бясплатным харчаваннем.

Паводле звестак камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароны, на тэрыторыі Брэсцкай вобласці пражывае 4506 сем'яў, якія выхоўваюць 4614 дзяцей-інвалідаў.

http://spring96.org/be/news/71528

## Беларускія праваабаронцы азнаёміліся са швецкай сістэмай абароны правоў чалавека

У пачатку чэрвеня сябры Праваабарончага цэнтра “Вясна” Віктар Сазонаў з Гродна, Алесь Капуцкі з Маладзечна, Тамара Шчапёткіна з Бярозы і Святлана Лапіцкая з Жодзіна наведалі Стакгольм, каб азнаёміцца са швецкай сістэмай абароны правоў чалавека і працай швецкіх калег.

-- Швецыя пабудавала для сваіх грамадзян сапраўдны сацыялізм, у аснове якога прынцыпы справядлівасці і сумленнасці, павага да правоў чалавека, - адзначае Віктар Сазонаў. – Тое, што мы бачылі ў Швецыі, - незалежныя суды, незалежная пракуратура, інстытуты амбудсменаў для кантролю над усімі дзяржаўнымі органамі і наладжаны быт, дзе ўсё прадумана і ўсё адбываецца ў інтарэсах чалавека - гэта ўсё прадукт не толькі фізічнай цяжкай працы многіх пакаленняў, але ў першую чаргу гэта прадукт той справядлівасці той сістэмы, якую змаглі выбудаваць людзі.

Вялікую цікавасць выклікала сустрэча з кіраўніком Міжнароднага аддзела Парламенцкага амбудсмена (ПА) Марыанн фон дэр Эш, якая распавяла пра працу па наглядзе за тым, каб дзяржаўныя ведамствы і суды прытрымліваліся нарматыўных дакументаў і былі аб’ектыўнымі і бесстароннімі, а таксама, каб іх дзейнасць не парушала асноўныя правы і свабоды грамадзян. Наведалі праваабаронцы і офіс амбудсмэна па супрацьдзеянні дыскрымінацыі. У выніку гэтых сустрэч яны азначылі, што гэты добры вопыт, які можа быць скарыстаны ў справе абароны правоў чалавека ў будучай дэмакратычнай Беларусі.

Сустрэчы і візіт прадстаўнікоў ПЦ “Вясна” былі арганізаваны шведскай праваабарончай арганізацыяй Ostngruppen.

http://spring96.org/be/news/7152

## ААН ужо больш двух гадоў не разглядае справу Бяляцкага

Разгляд справы палітвязня блакуюць беларускія ўлады.

Гендырэктар Міжнароднай Федэрацыі правоў чалавека (FIDH) Антуан Бернар і жонка асуджанага беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук просяць Камітэт па правах чалавека (КПЧ)

ААН паскорыць разгляд скаргі, якую яны падалі ад імя Бяляцкага два гады таму.

Просьба змяшчаецца ў адкрытым лісце, з якім Антуан Бернар і Наталля Пінчук звярнуліся да КПЧ ААН, паведамляе БелаПАН.

Скарга на неправамернае пазбаўленне Бяляцкага волі была пададзеная ў КПЧ 12 красавіка 2012 года. Яе аўтары пісалі ў камітэт аб парушэнні правоў Бяляцкага на асацыяцыю, на свабоду і асабістую недатыкальнасць і на справядлівае судовае разбіральніцтва (на падставе артыкулаў 9, 14, 22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах).

Парушэннем гэтых правоў з'яўляліся адмовы ў дзяржрэгістрацыі грамадскага аб'яднання «Вясна» ў 2007 і 2009 гадах, папярэджанне пракуратуры аб недапушчальнасці дзеяння ад імя незарэгістраванай арганізацыі, а таксама крымінальны пераслед і асуджэнне Бяляцкага ў 2011 годзе.

«Па працэдуры разгляду справы ў камітэце, дзяржава павінна была прадставіць у адказ свае аргументы па дадзеным паведамленні. Але ўжо ў ліпені 2012 года пастаянная місія Рэспублікі Беларусь пры офісе ААН у Жэневе накіравала ў КПЧ ноту, у якой адназначна заявіла пра адмову дзяржавы супрацоўнічаць з камітэтам па гэтай справе і пра спыненне далейшых камунікацый у гэтай сувязі. З тых часоў дзяржава кіруецца дадзенай пазіцыяй, не падаючы ніякіх паведамленняў па справе, хоць КПЧ накіраваў Беларусі ўжо два нагадванні з прапановай даць каментары па сутнасці», - пракаментаваў сітуацыю Валянцін Стэфановіч, намеснік старшыні праваабарончага цэнтра «Вясна».

Такой жа пазіцыі, адзначыў ён, беларуская дзяржава прытрымліваецца на працягу апошніх некалькіх гадоў і па іншых справах, якія знаходзяцца на разглядзе ў КПЧ ААН. Тым самым улады Беларусі парушаюць абавязацельствы, узятыя на сябе ў рамках Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

У сувязі з гэтым, лічаць праваабаронцы, «няма ніякіх падстаў чакаць адказу дзяржавы па справе Бяляцкага і адкладаць па гэтай прычыне яе разгляд у КПЧ ужо больш за два гады».

«Той факт, што дзяржава адмовілася ад камунікацый з камітэтам, не з'яўляецца перашкодай да разгляду скаргі, і прадстаўнікі Бяляцкага звяртаюцца да камітэта з просьбай паскорыць гэты працэс», - патлумачыў Стэфановіч.

Алесь Бяляцкі ўжо амаль тры гады «знаходзіцца ў цяжкіх умовах папраўчай калоніі». «Магчымасці яго прававой абароны ўнутры дзяржавы вычарпаныя, і нават вельмі сур'ёзная міжнародная кампанія за яго вызваленне не прывяла да змены яго становішча. Рашэнне Камітэта па правах чалавека як органа, кампетэнцыю якога Беларусь прызнала па міжнароднай дамове, павінна даць ацэнку яго справе з пункту гледжання міжнароднага права. Калі камітэт прызнае парушэнне правоў Бяляцкага дзяржавай, то на апошнюю будзе ўскладзены юрыдычны абавязак ліквідаваць гэта парушэнне, на падставе артыкула 2 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах», - лічыць Валянцін Стэфановіч.

Старшыня цэнтра «Вясна», віцэ-прэзідэнт FIDH Алесь Бяляцкі быў арыштаваны 4 жніўня 2011 года і прысуджаны нібыта за ўтойванне даходаў у асабліва буйным памеры да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Падставай для крымінальнага пераследу праваабаронцы стала наяўнасць у яго замежных банкаўскіх рахункаў, сродкі з якіх выкарыстоўваліся для праваабарончай дзейнасці. Адкрыць рахункі ў Беларусі не ўяўлялася магчымым, так як «Вясна» працуе нелегальна - улады неаднаразова адмаўлялі ў афіцыйнай рэгістрацыі арганізацыі.

Суд таксама не прыняў да ўвагі тое, што шкода, якую нібыта нанёс дзяржаве Бяляцкі, была цалкам пагашаная за кошт добраахвотных ахвяраванняў грамадзян.

Праваабаронца адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі №2 Бабруйска, ён афіцыйна прызнаны вязнем сумлення. Тры гады запар Алесь Бяляцкі вылучаўся прэтэндэнтам на Нобелеўскую прэмію міру.

http://charter97.org/be/news/2014/6/13/102576/

# Алесь Бяляцкі сустрэўся з праваабаронцамі з рэгёнаў і замежжа



Алесь Бяляцкі сустрэўся з калегамі-праваабаронцамі з замежжа і з прадстаўнікамі беларускіх рэгіёнаў праваабарончага цэнтра "Вясна".

Праваабаронцы лічаць, што нечаканае датэрміновае вызваленне Алеся Бяляцкага адбылося, дзякуючы супольным намаганням замежных і айчынных арганізацый, кажа намеснік старшыні праваабарончага цэнтра "Вясна" Валянцін Стэфановіч:

- Мне здаецца, што вызваленне Алеся звязана найперш з досыць прынцыповай пазіцыяй Еўразвяза па пытанні вызвалення беларускіх палітвязняў, з тым міжнародным ціскам на беларускія ўлады, якія аказваліся ўсе гэтыя тры гады не толькі міждзяржаўнымі аб'яднаннямі, як Еўразвяз ці Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, але і нашымі калегамі, прадстаўнікамі міжнародных праваабарончых арганізацый. Ну і мы канешне, наша дзейнасць, сама арганізацыя, якая шмат у чым спрыяла.

Пытанне з палітычнымі вязнямі не знята з павесткі дня, кажа кіраўнік шведскай праваабарончай арганізацыі Ostgruppen Марцін Угла:

- Вызваленне Алеся Бяляцкага – гэта, канешне вялікая радасць. Мы будзем працягваць супрацоўнічаць. Трэба, каб вызвалілі ўсіх палітвязняў.

Алесь Бяляцкі быў вызвалены 21 чэрвеня - у дзень уступлення ў сілу Закона "Аб амністыі ў сувязі з 70-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў". Ён правёў у зняволенні 1052 дні.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=25459#.U7L0xf4vCK5

## Для Камілы шукаюць аднакласнікаў

У Берасці можа з'явіцца яшчэ адзін беларускамоўны клас. Групу сфарміруюць сёлета, калі для шасцігадовай Камілы знойдуцца аднакласнікі. Такі адказ атрымалі бацькі дзяўчынкі на свой запыт у аддзел адукацыі адміністрацыі Маскоўскага раёна горада.

Паводле маці Міланы Харытонавай, за гэты час патрабаванні чыноўнікаў не змяніліся. Каб яе дачка Каміла атрымлівала школьныя веды па-беларуску, да канца жніўня трэба сфарміраваць групу найменш з пяці першаклашак.

**Мілана Харытонава**:

*- Сярод нашых знаёмых мы ўжо ведаем, што такіх дзяцей няма, такога ўзросту, то нам застаецца спадзявацца, што праз СМІ нехта знойдзецца, альбо праз абвесткі, якія мы распаўсюджваем. Нам проста чыноўнікі не пакінулі гэтага выбару: альбо мы паспрабуем самі нешта зрабіць, альбо ўвогуле не трэба спрабаваць.*

Адзіны на сённяшні дзень клас з навучаннем па-беларуску знаходзіцца ў пачатковай школе №34. Яго стварылі тры гады таму таксама паводле ініцыятывы неабыякавай да роднай мовы сям'і, якой давялося самастойна шукаць аднакласнікаў для свайго дзіцяці.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=24880#.U5IAl3IvCK5

## Ганна Канюс: Берасцейскі ўлады не прыслухаліся да грамадскіх актывістаў

Дагэтуль не адрамантаваны ўчастак дарогі, які вядзе ад адукацыйных установаў да вуліцы Крывашэіна. Замест гэтага ў сваім адказе прадстаўнікі ўлады патлумачылі, што яны адрамантавалі кавалак дарогі каля рынку “Юбілейнага”.

Актывістка кампаніі “Гавары Праўду!”, старшыня берасцейскай гараской арганізацыі Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Ганна Канюс адзначыла, што дагэтуль не была прынятая да ўвагі просьба грамадзян:

- Не задаволены другім адказам Берасцейскаа гарадскога выканаўчага камітэту пра перакрыццё руху на вуліцы, якая вядзе ад рынку Юбілейны да вуліцы Крывашэіна. Нашай мэтай быў рамонт

дарогі ад дзіцячых садкоў да дзясятай школы. Да сённяняга дня гэтая вуліца не была адрамантаваная.

Усяго было сабрана каля чатырох дзясяткаў подпісаў за выпраўленне сітуацыі з тэрыторыяй паміж сярэдняй школай №10 і дзіцячымі садкамі №№41 і 34.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=24787#.U44CinIvCK5

## У Пінску ствараецца камітэт да 150-годдзя мецэната Рамана Скірмунта



У Пінску пачалі фармаваць арганізацыйны камітэт, якія займецца падрыхтоўкаю да 150-годдзя выбітнага дзеяча, мецэната Рамана Скірмунта. У склад аргкамітэта ўвойдуць гісторыкі, даследчыкі і краязнаўцы. Галоўная задача – распрацаваць план урачыстых мерапрыемстваў і падрыхтаваць зборнік пра жыццё і дзейнасці знакамітага земляка.

Да 150-годдзя Скірмунта яшчэ чатыры гады, але па словах ініцыятараў, трэба рыхтавацца паступова. Імя Рамана Скірмунта толькі адкрываецца для шырокага грамадства, хаця ён адзін з нямногіх беларусаў, якія ў пачатку ХХ стагоддзя сталі рэальнымі палітыкамі - дэпутат Дзяржаўнай Думы Расейскай імперыі, чалец Савета Расейскай імперыі, прэм’ер-міністр БНР, сенатар сойма Польшчы. Фінансава падтрымоўваў беларускі друк, асвету і дзейнасць грамадскіх аб’яднанняў.

Антаніна Сідарук, дырэктар музею Яўгеніі Янішчыц, які знаходзіцца ў Парэччы - былым маёнтку Скірмунта, адзначае, што ён меў вялікі аўтарытэт, бо не цураўся простых людзей і іх традыцый:

- Гэта быў вельмі таленавіты чалавек. Ён быў і сенатарам, ён і вершы пісаў і Буквар складаў для палешукоў. Размаўляў ён на нашай, на вясковай мове. Значыць ён не цураўся людзей, калі размаўляў на гэтай мове.

Сёлета мусіць з’явіцца першая кніга пра жыццё і дзейнасць слыннага беларуса, якую падрыхтаваў доктар гістарычных навук з Гародні Алесь Смалянчук. Постаць Скірмунта захапіла навукоўца з 1990-х гадоў.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=25269#.U6cjxP4vCK5

## 25 гадоў - Таварыству беларускай мовы




Можна ганарыцца тым, што арганізацыя існуе і дагэтуль працуе. Кажа старшыня "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", гісторык і археолаг Алег Трусаў. Грамадскае аб'яднанне святкуе 25-годдзя з дня заснавання.

На думку гісторыка, вялікі мінус для развіцця беларускай мовы - гэта сённяшняя ўлада, якая, "мякка кажучы, не садзейнічае яе развіццю".

- Толькі прыклад возьмем – Міністэрства адукацыі не адкрыла ніводнай беларускамоўнай школы за апошнія 10 гадоў, а закрыла некалькі сотняў. У вёсках школы “малакамплектныя” зачыняюцца, а дзяцей без іх згоды пераводзяць у рускамоўныя школы. Так што ўладзе няма чым ганарыцца.

„Што да мовы ў цэлым, не гледзячы на ўсе нюансы, яна засталася, умацавалася і пашыраецца, асабліва ў інтэрнэце, у недзяржаўных выданнях. Таму мова не памерла, яна тысячу гадоў жыла і яшчэ пражыве тысячу“, - дадае Алег Трусаў.

http://www.racyja.com/index.php?id=105&zoom=25407#.U7BZdv4vCK4

## 19 чэрвеня грамадскасць адзначыць 90-годдзе Васіля Быкава

Бягучы тыдзень можна назваць Быкаўскім: на яго прыпадае 90-годдзе з дня нараджэння пісьменніка - 19 чэрвеня, і шэраг іншых



падзей, звязаных з пісьменнікам.

Васіль Быкаў значную частку свайго паваеннага жыцця правёў у Гародні. Яго творы вайсковай тэматыкі выклікалі і надалей выклікаюць жывую дыскусію.

Пра адну з такіх дыскусій пасля выхаду аповесці “Мёртвым не баліць» згадвае прафесар Аляксей Пяткевіч:

- У канцы дыскусіі выступаў Быкаў. Гаварыў ён не вельмі доўга, не вельмі складна, але вельмі глыбока, разумна. Неардынарна выказваўся пра літаратуру, пра жыццё, пра сучаснасць і мінулае, пра вайну, пра чалавека і ягонае месца ў жыцці. Ён прымушаў абавязкова задумацца не толькі над аповесцю, пра якую гаварылі, а ўвогуле пра жыццё чалавечае і пра моладзь. Я думаю, што гэта былі вельмі важныя і сёр’ёзныя ўрокі.

Адзначым, што ў самой Гародні да гэтага часу мясцовыя ўлады ігнаруюць жаданне многіх гарадзенцаў надаць адной з вуліц імя Васіля Быкава.

Падсумуе гэты тыдзень цырымонія ўручэння прэміі “За свабоду думкі” імя Васіля Быкава. Уганараванне сёлетняга лаўрэата адбудзецца 21-га чэрвеня, традыцыйна на радзіме Быкава – ў вёсцы Бычкі на Віцебшчыне.

http://www.racyja.com/index.php?id=103&zoom=25187#.U6HYYf4vCK5

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»